# НАВІНКІ

7 - 21 верасьня 1999 №9(17) Кошт свабодны


Праўда і плёткі пра Пакт Молатава-Рыбэнтропа.

Урыўкі з мэмуараў Рыбэнтропа прачыняюць заслону тайны.

Стар. 4-5




**Прывіды** саратнікаў гетмана Астрожскага **тэрарызуюць навакольлі**

стар.3

***Семкі – чорная сьмерць!***

*Мільёны састарэлых аматараў семак паміраюць ад перадазьняку.*

Стар. 3

# Мой першы «Жыгуль»!

60 гадоў таму заходнія беларусы адкрылі для сябе гарэлку «Русская», азэрбайджанскі «Агдам» і папяроскі «Беломорканал»

Іван, хадзі да нас!




## Урокі ўзьяднаньня

Беларускае рысорджымэнта 17 верасьня 1939 – гэта ўнікальная зьява, якая ня мае ў эўрапэйскай гісторыі прэцэндэнтаў.

Паглядзіце на аб'яднаную Нямеччыну. Немцы дасюль дзеляцца на «вэсі» і «осі». Вэсі эканамічна чмораць осі. Осі ў знак пратэсту езьдзяць на старых плястмасавых «трабантах». У Італіі, якая таксама аб'ядналася адносна нядаўна – у сярэдзіне 19 ст., Паўночная Лямбардыйская Ліга дабіваецца аддзяленьня ад Поўдня. Шатляндыя, Корсіка, Каталонія – гэта ўсё ў працяг тэмы.

І вось, Заходняя Беларусь.

На першы погляд – поўны спэктар субцывілізацыйных характарыстык, спрыяльных разьвіцьцю сэпаратысцкіх настрояў: касьцёл, хутарная сыстэма, польская меншасьць і г.д. У любой іншай краіне гэтых фактараў было б дастаткова, каб замуціць рух за незалежнасьць. Аднак у дзьвюх нашых заходніх вобласьцях спакойна, як на могілках. З 1939-га ніводнага вазбуханьня супраць менскай мэтраполіі. Нават берасьцейцы, якія як нікто ведаюць усе спакусы заходняга спажываньня, сядзяць ды ня рыпаюцца.

У чым сакрэт заходнебеларускага фэномэну? Думаецца, што галоўны дэтэрмінат наступны: занадта моцна буржуазна-памешчыцкія паны наяжджалі на ўсё ўсходнебеларускае: забаранялі насіць будзёнаўкі, глушылі менскія музычныя радыёстанцыі, навязалі берасьцейскаму Дынама ідыёцкую назву Pogon... Дзясятак гадоў перасьледу ўсяго бэсэсэраўскага раскруцілі лэйбл БССР.

На стар. 4

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Тыраж 5100 экз. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 06.09.1999 г. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы "Чырвоная Зорка" ППП імя Я.Коласа, г.Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №2046

## Дэкрэт супраць мухамораў

Яшчэ адна нядаўна пасіўна-апалітычная група насельніцтва зрабіла рашучы крок у бок антыпрэзыдэнцкіх настрояў. Гаворка ідзе пра субкультуру беларускіх наркаманаў, для якіх першаверасьнёўскі Дэкрэт Прэзыдэнта аб унармаваньні збору грыбоў і ягадаў стаў сапраўдным чорным днём. Наркоты ў падаткавай палітыцы – людзі малашаряшчыя, але ж да грыбоў маюць свой жыцьцёвы карпаратыўны інтарэс.

Справа ў тым, што бледныя паганкі, перачныя грыбы й мухаморы ўтрымліваюць пропасьць галюцынагенаў. Гэтыя прэпараты здольныя выклікаць у закавулках мазгоў каскад глюкаў, у параўнаньні зь якімі кампутарныя спэцэфэкты рэжысэра Лукаса – поўны адстой. Ураджай атрутных грыбоў у гэтым годзе выдаўся рэкордны, і ручайкі тарчкоў ламануліся за горад, каб з дапамогай смажаных мухамораў прарвацца на новыя ўзроўні сваёй падсьвядомасьці.

Тое, што іх чакае за новым дэкрэтам, наглядна ілюструе прыклад двух пухавіцкіх нарыкаў – Паскуды й Арландзіны. У прадчуваньні вышэйшых канкрэтных прыходаў апошнія сабралі цэлых два вядры перачных грыбоў (дарэчы, вельмі падобных на падасінавікі) і, неадыходзячы ад касы, прама ў лесе сталі гатаваць нейкае супэрустаўлялава. За гэтай кулінарнай страпнёй іх і застукалі людзі ў камуфляжах. Грыбавая міліцыя патрабавала ад ханырыкаў ліцэнзіі на збор дароў лесу, якіх у нашых сяброў, зразумела, не было. Усе адмазкі пра тое, што аб дэкрэце нічога ня ведалі, што ў хаце памірае хворая маці – просіць грыбоў, і нават пра тое, што грыбы атрутныя, не дапамаглі. Усю здабычу пад чыстую канфіскавалі. Нашым героям нічога не заставалася як кусаць ад крыўды локці ў слабой надзеі, што гэта выкліча хоць нейкі маленькі афэкцік у мазгавой падкорцы. Ніякага эфэкту, зразумела, не пасьледавала. Тады дэпрэсіўна падаўленыя, ня солана хлябаўшыя Паскуда й Арландзіна экспліцыявалі свой пракол у стойкую антыпрэзыдэнцкую пазыцыю. На наступны дзень іх ужо бачылі на апазыцыйным пікеце, дзе яны нешта пыхалі зь Лябедзькам.

**Ясь Шыряеў**

## Хутчэй, болей, мацней!

Сёлета маладыя сацыял-дэмакраты ўстанавілі новы адметны рэкорд беларускай апазыцыі «на выездзе». Такога дэмакратычная грамадзкасьць яшчэ ня бачыла: за паўтары дні ў паездцы ў турыстычным аўтобусе сем адданых спартоўцаў «Маладой грамады» на чале з старшынём спартовага аддзелу Аляксеем Піменавым выпілі 26 (!) бутэлек высокаякаснай беларускай гарэлкі. Гэты, недасяжны раней, рэкордны вынік у спаборніцтве сярод маладзёвых арганізацыяў стаў магчымым дзякуючы высокай дысцыпліне, выключнай самаадданасьці, натрэніраванасьці й сабранасьці беларускіх маладых дэмакратаў.

Ранейшы рэкорд выпітага падчас вандроўкі таксама належаў «Маладой грамадзе»: было выпіта 27 бутэлек украінскага віна ў звышкароткі тэрмін – за ноч вяртаньня з кіеўскага сэмінару «Цьвярозасьць, Сьцяпан Бандэра і ўкраінскія сацыял-дэмакратыя», што адбываўся ў сьнежні 1998-га году. Варта зазначыць, што «Маладая грамада» ішла на рэкорд яшчэ па дарозе на вышэйузгаданы сэмінар. Але сацыялістычным спартоўцам перашкодзілі рэпрэсіўна-таталітарныя ўлады Беларусі. Усяго пасьля сёмай бутэлькі «Крышталь-100» беларускія памежнікі зьнялі з дыстанцыі і пакінулі на заставе старшыню спартовай камісіі А.Піменава і цэнтральнага форварда каманды Мікіту Коласа. Вядома ж, гэта значна аслабіла шанцы маладаграмадоўскай каманды ня тое, што на рэкорд, а проста на перамогу. І вось, сапраўднага рэкорду давялося чакаць амаль што год.

Зараз «МГ» амаль штодня рыхтуецца на «квадратах» да новых спартовых дасягненьняў як у дарозе, так і на закрытых пляцоўках.

**Алька Голік**

# Не магу маўчаць!

*Адкрыты ліст Прэзыдэнту ад працоўных калектываў Шклова (Копія накіраваная ў фонд культурных помнікаў ЮНЭСКА)*

Шаноўны Прэзыдэнт!

Зьвярнуцца да Вас нас прымусіў боль за лёс роднага гораду, гораду, які зьяўляецца сьведкам двух рэфэрэндумаў, перанес увесь трагізм наступстваў развалу Савецкага Саюзу. Тое, што адбываецца сёньня ў нашым горадзе, можна параўнаць з прыходам вандалаў Аларыха ў Рым у 401-405 гадах. Пад прыкрыцьцём падрыхтоўкі да сьвята «Дажынкі» заежджыя менскія чынушы ператвараюць архітэктурную жамчужыну левага берагу Сярэдняга Дняпра ў бязьлікі шэры райцэнтар. У парыве мадэрнізацыі зьнішчаецца ўсё, што можа нагадваць пра сьветлыя часы савецкага застою. Вядома, камусьці трэба, каб народ забыўся на свае карані і, пазбаўлены гістарычнай памяці, аддаўся хвалі рынычных пераўтварэньняў і анархіі капіталістычнай вытворчасьці. На зьмену ўнікальным драўляна-сылікатным забудовам сярэдзіны 20-га стагодзьдзя прыходзяць плястыкавыя эрзацы. Утульныя вулачкі, заасфальтаваныя ў непаўторным стылі позьняга сталінскага ампіру, замяняюцца загазаванымі аўтабанамі. Драўляныя плоты – шэдэўр народнага дойлідзтва – замяняюцца на мэталічную агароджу, не ўласьцівую этнаграфіі Шклоўскага раёну. Нажаль, ужо сёньня ёсьць некалькі помнікаў гісторыі, якімі нашыя нашчадкі будуць любавацца толькі на фатаграфіях з фамільных альбомаў.



Утульныя хаткі старога прысавецкага Шклова па вул. Мэліяратараў.... Сёньня яны засталіся толькі на фатакартках



Гэтак вул.Мэліяратараў выглядае пасьля барбарскай «мадэрнізацыі», якая ураганам пранеслася па гістарычнай спадчыне Шклова. Твар гораду паступова ператвараецца ў ашчэр капіталізму

Чорны сьпіс адкрывае будынак вакзалу – гістарычнае месца, на якім будучы Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь у 70-80гг. стаяў у чарзе, набываў аўтобусныя квіткі і апэльсінавыя жуйкі, – поўнасьцю зраўняны зь зямлёй. Замест яго ўзьведзеная агідная паводле свайго густу антыэстэтычная плястмасавая канструкцыя, якая нагадвае хутчэй вальер для малпаў. Ахвярай архітэктурных вычварэнцаў стала крама «Чабарок». Калісьці генэрацыя шклоўскіх гараджанаў назапашвалася тут славутымі шклоўскімі агуркамі. Сёньня на гэтымсама месцы стаяць аўтаматы «Аднарукі бандыт». У памяшканьні «Чабарка» касмапаліты ад улады адчынілі прытон-казіно, які ператварыўся ў гняздо распусты й нацыяналізму. Хваля перайменаваньняў захляснула тапаграфічную мапу гораду. Невядома куды зьнікаюць старыя назвы. Рэстаран «Полацак» перайменаваны ў не зразумелае нармальнаму грамадзяніну «Явар», ад якога пілiць славянскае вуха.

Мы просім прыструніць зарваўшыхся архітэктурных мадэрністаў і выратаваць наш родны куток ад мэтафізычнай сьмерці. Недапусьціць бесчалавечнага экспэрымэнту над Шкловам і захаваць горад для нашых нашчадкаў, захаваць падмуркі настальгіі па савецкіх часах – доўг для ўсіх сучасьнікаў і пытаньне выжываньня ўсяго нашага грамадзтва ●

**(5321 подпіс)**

*Скан дАл*

### Падрабляюць пашпарты

Менавіта да такой высновы прыйшоў самазваны прэзыдэнт НРМ Лявон Вольскі, падлічыўшы прыбыткі ад рэалізацыі свайго апошняга альбому «Пашпарт грамадзяніна НРМ». І як тут не захваляваццa! Ужо каторы месяц НРМ стала займае верхні радок хітпараду БМА, праехалася з турнэ па ўсёй Беларусі, а прыбытку ад продажу альбому – кот наплакаў. Фактычна фірмовых касэт, якія дарэчы маюць 7 ступеняў абароны, прадалі толькі чатыры (зь іх адну вярнулі). Зараз па факту падробкі дакумэнтаў НРМ узбудзіла крымінальную справу, якую вядзе асабіста нарком НКВД НРМ Піт Палыч Берыя. У сувязі з наяўнасьцю падробных пашпартоў хутчэй за ўсё будуць скасаваныя ваўчэры і ўведзеныя месячныя візы. Выдача візаў у НРМ будзе праводзіцца па запрашэньнях.

# Ачумелыя ручкі

*«Навінкі» ў сьвеце татух*



Якія татухі звычайна не набіваюць сабе камплексанутыя ад дэфіцыту крутасьці тынэйджэры: Не забуду маць радную! Вася! Курт Кабэйн жывы! і г.д. Ня цяжка заўважыць, што ўсё гэта чысты выпяндрёж, які не нясе аніякай прыкладной функцыі.

Новае практычнае слова ў модзе Tatoo сказалі менскія скінхэды, тутэйшыя апосталы белага супраціву. Брытагаловыя туранчоксы пачалі набіваць сабе на руках малюнак арыфмэтычнай лінейкі. Яшчэ не зразумелі для чаго? Ну што вы! Дзякуючы вось такой лінейцы, можна лёгка адсейваць казлоў-недачалавекаў ад прадстаўнікоў белай выбранай расы. Скажам, прыходзіць да цябе нейкі брытагаловы пэтэвэшнік і на каленях просіць запісаць яго ў крутую банду арыйцаў. А калі ён не арыец? Можа проста зголіў пэйсы. Як праверыць? Ня будзеш жа ў яго пытаць, ці мае ён родзічаў ў Афрыцы.

Зараз усё прасьцей. Пад рукой заўсёды інструмэнт, можна апэратыўна вылічыць, ці адпавядае кандыдат арыйскім стандартам. Усё адбываецца прыкладна наступным чынам.

«Стопрацэнтовы арыец, кажаш? Ну, ну! Вось мы зараз паглядзім. Падстаўляй-ка чарапушку. Та-а-к, 34 см. Памнажаем на каэфіцыэнт расавай чысьціні. Сем на тры, гэта ў нас 34. Пяць в уме. Сем далоў. Усяго 456 умоўных арыйскіх антрапамэтрычных адзінак. Ты ня тое, што на арыйца, нават на канака або эскімоса ня цягнеш. Ах, ты, чорная малпа, думаеш перасадзіў скуру і ўсё можна?! А ну хлопцы пакажыце яму халупіну дзядзькі Тома!»

Апэратыўна? Апэратыўна. Практычна? Яшчэ як. Відавочна, справа аддзяленьня арыйскіх зёрнаў ад недачалавечых плёвел пойдзе цяпер куды хутчэй.

На гэтым экспэрымэнты з татухамі ня скончыліся. Зараз некалькі скінаў-дабраахвотнікаў пачалі набіваць сабе на нагах малюнак, які адзін да аднога імітуе «мартынсы» за 70 бакаў, ды яшчэ з фірмовымі белымі шнуркамі. Экспэрымэнт толькі пачаўся. Магчыма хутка можна будзе нават спаць або трахацца і пры гэтым заставацца крутым арыйскім сокалам. А некаторыя мецяць накалоць сабе камуфляж ці бела-сіні дынамаўскі шалік ●



**Рыгор Катоўскі,**
*SHARP-skin*

# Чорнае семя

***– Шухер! Мянты! Бабулькі ў сьпешцы хапаюць мяхі са сваім чорным таварам і ў міг зьнікаюць сярод натоўпу, які чакае транспарту на прыпынку. Састарэлыя спэкулянткі, яны выклікаюць жаль у выпадковых мінакоў. «Далі б бабулькам спакойна зарабляць на жыцьцё», – гэтак лічыць пераважная большасьць грамадзянаў. Але між тым гэты, бяскрыўдны на першы погляд, бізнэс вельмі небясьпечны.***




Першымі па поваду распаўсюду гэтай глябальнай заразы забілі трывогу не праваахоўныя органы, а беларускія мэдыкі. На пазачарговым наркалягічным сымпозыюме з удзелам спэцыялістаў-нарколягаў з Расіі, Украіны, Малдовы і Беларусі быў агучаны сэнсацыйны даклад доктара мэдыцынскіх навук сп. Уладзімера Канаплёва. У сваім дакладзе «Чорная справа сланечніку» Канаплёў параўнаў залежнасьць ад ужываньня цяжкіх наркотыкаў з залежнасьцю ад ужываньня семак. Вынікі дасьледаваньняў паверглі ў шок бывалых спэцыялістаў: сымптомы аказаліся амаль ідэнтычнымі.

Галоўны сымптом – непераадольная цяга да ўжываньня наркатычнага рэчыва – вельмі характэрны для семак. Кожны, хто хоць раз паспрабаваў гэтую заразу, скажа, што спыніць ужываньне немагчыма да тых часоў, пакуль ня будзе спажытая ўся доза (звычайна шклянка). У тых, хто схільны да рэгулярнага ўжываньня «чорнай сьмерці», праз кароткі тэрмін зьяўляецца тэндэнцыя да павышэньня колькасьці прыманага прэпарату. І самае небясьпечнае: сланечнікавыя семкі выпрацоўваюць сталую фізычную і псыхічную залежнасьць, паражаюць маторна-рухавую сыстэму. Семкавы наркаман («семкаман») адчувае кайф ня толькі ад непасрэднага ўжываньня семак, як, прыкладам, гераінщчыкі, але і проста ад адчуваньня семак у руках, ад прыемнага лузгату, ад іхняга паху – гэтак, як табакакурцу прыемна трымаць у руках цыгарэту.

З усіх бакоў да нашае Бацькаўшчыны цягнуцца шчупальцы злачынных семачных картэляў

Каб наталіць прагу да ўжываньня «чорнай сьмерці», семкаманы ідуць на ўсё, нават на зьдзяйсьненьне дробных адміністратыўных правапарушэньняў.

Далейшы іх лёс вядомы: губляючы ідэалы, па крывой дарожцы яны трапляюць у шматлікія маргінальныя апазыцыйныя прытоны. І як апошняя стадыя – удзел у апазыцыйных мітынгах за шклянку семак. Нездарма міліцыя часта знаходзіла ў кішэнях затрыманых чорнае семя распусты.

Прычына такога фэнамэнальнага ўзьдзеяньня семак была вызначана досыць хутка. Як сьведчаць батанікі, сланечнік зьяўляецца далёкім, але прамым сваяком опіюмнага маку. Утрыманьне апіяту ў сланечніку ў пэрыяд высьпяваньня не перавышае 0,00001г на 1 тону сыравіны. Дагэтуль у нас лічылася, што такая доза не выклікае якіх-небудзь значных таксікозаў. Прасьцей кажучы, на гэты факт банальна заплюшчвалі вочы. Між тым, на Захадзе яшчэ з пачатку 70-х усталяваны жорсткі кантроль за продажам г.зв. «рускіх арэшкаў» (семак па-іхнаму), якія лічацца там за лёгкі наркотык.

Рынак рэалізацыі чорнай заразы зьяўляецца сур'ёзным фактарам абвастрэньня крыміна-геннай сытуацыі ў краіне. Апэраддзел КДБ па барацьбе з наркаманіяй і арганізаванай злачыннасьцю праводзіць экспэртны аналіз сытуацыі, які склаўся на «чорным рынку» гандлю семкамі. Паводле папярэдніх зьвестак, Беларусь «дзеляць» тры вялікія картэлі буйных гуртовых пастаўшчыкоў семак: кубанскі, бесарабскі і данецкі.

Большасьць семкаманаў аддае перавагу данецкаму каналу, як найбольш надзейнаму і праверанаму (раней па гэтых каналах пастаўлялася шмаль). Бесарабам і кубанцам гэта, вядома, не падабаецца. Калі кубанцы плянуюць дамагчыся перавагі над канкурэнтамі празь вялікія палітычныя гульні (г.зв. плян «інтэграцыя»), то бесарабцы проста наймаюць кілераў. Нядаўна на даху Камароўкі было знойдзенае цела ўкраінкі-семкакур'еру, якую задушылі пустым мехам з-пад семак. Відаць, канкурэнты не пагрэбвалі ўзяць чысты ўкраінскі прадукт і разбавіць ім свой бесарабскі адстой.

Але галоўны ўпор варта рабіць на тлумачальную работу сярод насельніцтва, якое бяздумна спажывае гэтую чорную заразу. Трэба памятаць, што здароўе нацыі залежыць перш за ўсё ад нас саміх ●

**Віталь Амфэтамінаў**




Семкі паражаюць амаль усе жыцьцёва неабходныя органы чалавека. Рак вуснаў, захворваньні маторна-рухальнай сыстэмы, атупеньне і, нарэшце, апэндыцыт – вось няпоўны сьпіс хваробаў, якія павадуюцца «чорнай заразай»

## *ФутбОл*

## Залатая бутса Баранава

*«Так, здольна спрытных Марадонаў*
*І меткіх пасамі Зіданаў*
*Беларуская зямля раджаць...»*

Гэта фрагмент оды, напісанай паэтам Анемпадыставым і прысьвечанай Васілю Баранаву – цэнтарфорварду беларускай зборнай па футболу. Гэтыя строфы – ня проста словаблудзьдзе кшталту Народнага альбому. Гэта адна з формаў праявы грамадзкай пашаны да нашага вялікага земляка. У апошнім матчы са зборнай Уэльсу Баранаў быў адзіны на полі, на якога было люба дарага паклясьці вока. Пакуль астатнія гульцы яўна марнавалі час, пінаючы ад нуды мячык і валійскіх нападаючых, Васіль забіў штуку і пару разоў трапіў у штангу. Вось гэта футбол!!! Нажаль радзіма ня можа як там, за мяжой, башляць футбалістам шалёныя ганарары. Вы ж разумееце, ізаляцыя з Захаду, энэргетычны крызыс і г.д. Таму формы грамадзкай пашаны набываюць нетрадыцыйныя нематэрыяльныя формы. Што да Баранава, то мусуюцца чуткі, нібы ў хуткім часе горад Баранавічы будзе перайменаваны ў гонар Васіля Баранава. У Баранавічы.

# Прывіды над Крапіўнай

## Душы літоўскіх ваяроў вось ужо амаль 500 гадоў ня маюць спакою



На сьмярдзючай рэчцы Крапіўна, што ў Аршанскім раёне, ужо які год адбываюцца такія параанамаліі, што фіг прас..ыш.

Мясцовыя пастухі, якія водзяць калгасных кароў да вадапою, бажацца, што да іх падышоў закаваны ў латы рыцар і спытаў: «Бутэлечку не пакінеце?» Кабеты з суседніх лецішчаў баяцца хадзіць у лазьню: не пасьпееш ляшку агаліць, як празь сьцены прэ нейкая заклапочаная барадатая сволач. Рыбакам і турыстам па начах чуецца п'яны роў: «Рубон! Гамон! Мачы маскалёў! Валі ліцьвіноў! Здаюся! Шухер, коньніца! Рамашка, рамашка, я васілёк! Дайце карцечы па левым флянзе!..»

Заслону над таямнічымі падзеямі давялося выпадкова прачыніць толькі ў гэтым годзе. У ролі беларускіх «паляўнічых за прывідамі» выступілі сябры мясцовай суполкі Маладога Фронту. Насуперак усялякім чуткам аб аршанскіх палтэргейстах маладыя выраджэнцы штогод упарта наведваюць гэтыя гістарычныя мясьціны, дзе ў 1514 годзе разгулялася славутае Аршанскае рубілава паміж войскам Івана Грознага і арміяй Вялікага Княства Літоўскага пад кіраўніцтвам гетмана Астрожскага. Вось і зараз, каб адзначыць чырвоную дату, набыўшы пару скрыняў «Міражу», усёй радай выехалі на Крапіўну, дзе адразу ж перайшлі да неафіцыйнай часткі. Не пасьпелі хлапцы падняць шклянку за слаўнага сына Бацькаўшчыны гетмана Астрожскага, як з кустоў намаляваўся апухлы бамжара ды папрасіў «высакароднае панства кропель 200 для сугрэву». Прыемна ўражаныя такім высакапарным беларускім ямбам і чысьцінёй вымаўлень-ня, хлопцы адсьцягнулі бічу дозу. Даведаўшыся за каго п'е моладзь, незнаёмец аж прасьлязіўся ад радасьці.

*Сябры «Маладога Фронту» з п'яну наехалі на герояў Аршанскай бітвы і атрымалі па рагах*

«Ведаў я гэтага высокавяльможнага пана. На гэтым самым месцы, вось там дзе дубы стаяць, наша раць стаяла. Зранку выехаў перад намі гетман на белым кані і галосна кажа: «Дзецюкі! Нас тут 30 000 слаўных сыноў Літвы. Супраць нас па той бок Крапіўны 80 000 маскоўскіх рабаўнікоў. Дык не пасаромім жа Вялікага Княства і нашага гонару. Наперад, ура!!!» Мы як пачулі пра 80 000 маскалёў, так рванулі кіпцюры, хто куды. Які гонар, якое Княства! Няхай дзяды й татары-кантрактнікі змагаюцца, а я што, дурны за раньні фэадалізм сваю галаву класьці!..»

Слухаючы п'яныя дзедавы байкі, маладафронтаўцы сьпярша толькі лыбіліся: ясная справа, дзеду мала трэба. Але калі стары стаў лажаць сьвятое сьвятых – ВКЛ – цярпеньне хлопцаў лопнула. «Ах ты, стары пярдун! Ты на каго наехаў!» – пачалі заводзіцца птушаняты Севярынца. У руках заблішчэлі «пёры» і «ружачкі». Пэнсіянэра пакачалі нагамі і выкінулі ў бур'ян.

Дзед, ачухаўшыся, пакульгаў у цемру, разрадзіўшыся напасьледак пагрозамі і мацюкамі: «Ах, вы, саплякі, серуны! Я вам яшчэ пакажу Кузькіну маці». Падагрэтыя хлопцы не зьвярнулі аніякай увагі на панты старога, усім сэрцам аддаўшыся дэгустацыі чарнілаў.

І тут раптам на даляглядзе зьявілася сярэднявечная коньніца: армада латнікаў і лучнікаў. Уперадзе шаблы стаяў знаёмы дзед і паказваў на крыўдуноў. «Вось, гэныя самыя. Замест таго, каб гісторыю вучыць, рукі распушчаюць». Кодла ваякаў ламанулася наперад... Больш ніхто нічога ня памятае.

Зранку ўсе ачунялі зь дзікім галаўным болем, з распухшымі табло, канкрэтна зьбітыя. «Ну, мы ўчора яўна перабралі», – зрабіў вынік мясцовы Севярынец. – «Гэта ж трэба было нажэрціся да белых пагонь».

Аднак вядомы менскі глёба Мамчыц зьвязаў п'яны базар маладафронтаўцаў і прапанаваў сваю вэрсію падзеяў. Уся справа ў тым, што падчас разборак 1514г. дала дуба прорва людзей, чые пакутныя душы вымушаныя дагэтуль бадзяцца па басэйне маленькай Крапіўны ў выглядзе звычайных прывідаў. Яны, пракля-тыя самім гетманам Астрожскім, і настучалі па шапцы выяпоністым маладафронтаўцам. Трэба ведаць сваю гісторыю!!! ●

**Алег Абэцэдарскі**

# СТАЛІН ДУМАЕ

**60-я гадавіна ўключэньня Заходняй Беларусі ў склад БССР выклікала шквал дыскусіяў у нашым грамадзтве. Камянём датыкненьня служыць гэтак званы Пакт Молатава-Рыбэнтропа, падпісаны 23 жніўня 1939 г. у Маскве, які адкрыў шлях да інкарпарацыі заходніх беларусаў у брацкую сям'ю савецкіх народаў. Для таго, каб кінуць цень на сьвята нашага адзінства, заходнія квазігісторыкі ўжо каторы год запар сьцьвярджаюць, што ў рамках дамовы быў прадугледжаны падзел Эўропы на сфэры ўплываў, напад на Польшчу і нават разьвязаньне другой сусьветнай вайны. Гэта, вядома, поўная лухта, якую мы можам абвергнуць дакумэнтальна.**

Са стар.1

Як вынік – Менск стаў суб'ек-там аб'ектна-арыентацыйных калектыўных фантазмаў. З часам ён набыў, дзякуючы пастаяннай антысавецкай гістэрыі, навязьлівы дынамічны статус і пацысьніў тэалягічныя хімеры выратаваньня.

Верасень 1939 па-сутнасьці стаў выйсьцем гэтых комплексаў. Тады комплекс каханьня да БССР быў яшчэ тымчасовым. За кошт эксплюатацыі гэтай эмацыйнай спадчыны ў масавай культуры, аб'яднаньне захавала легітымізацыю ў пасьляваенным Societte du spectacle. Сёньня ж, калі мы сутыкаемся з адкормленай фанабэрыстай Польшчай, гонар за нашыя танкі на вуліцах Беластоку яшчэ больш крэпне, забясьпечваючы міту 1939 будучую салідную валіднасьць.

Цяпер, калі мы ведаем матрыцу трыюмфу ўзьяднаньня, варта задацца лягічным пытаньнем: чаму б штучна не правярнуць тойсама сцэнар у сёньняшніх умовах?

Гаворка ідзе пра забесьпячэньне мэнтальных гарантыяў расейска-беларускім інтэграцыйным працэсам, якім сёньня відавочна бракуе эмацыйна-драматычнай фабулы 1939 году.

Для гэтага нашым уладам трэба па прыкладу белапалякаў на карню забараніць усё расейскае: мову, школы, тэлебачаньне, папсу... Тады, як сьведчыць прыклад Заходняй Беларусі, не міне й 15-20 гадоў як народ будзе маліцца на Крэмль. А там ужо не прапусьціце мізансцэну.

І зноў з усходу будзе грамыхаць калёна танкаў, а народ сустракаць салдатаў кветкамі і называць вызваліцелямі. Вось тады й наступіць сапраўднае аб'яднаньне славянскіх нацыяў, а ня сёньняшняя бюракратычная сымуляцыя тых слаўных верасьнёўскіх дзён.

**Рэдакцыя**



*«Ці праўда, што на Захадзе існуе г.зв. мапа з зацьверджаным асабіста Молатавым і Рыбэнтропам плянам разьдзелу Эўропы на савецкую і нямецкую зоны ўплываў?»*

*Генадзь Сівохін, студэнт гістфаку*

## Падробка для прафанаў

### «Мапа» з «разьмежаваньнем» «сфэраў» «уплыву» – грандыёзны папандос імпэрыялістаў

Сапраўды, існуе такая «мапа». Яна знаходзіцца ў нетрах Пэнтагону і надрукаваная ў любым падручніку сучаснай гісторыі як доказ агрэсіўных плянаў бальшавіцкай імпэрыі зла. Аднак на самой справе імпэрыялісты пракаloліся. Мапа не каштуе выедзенага яйка, гэта звычайная падробка!!! 5 гадоў назад шляхам вугляродна-спэктральнага аналізу было даведзена, што згаданая мапа была зроблена на гомельскай фабрыцы Рэйхскамісарыят-друку ў 1943г. у рамках партыі контурных мапаў, распрацаваных для сябраў Саюзу Беларускай Моладзі з затармажаным разумовым разьвіцьцём. Мапы пыліліся ў падсобках Ленінскай бібліятэкі ў Менску, пакуль у сярэдзіне 60-ых ня трапілі ў рукі аматара старажытнасьцяў, студэнта-гісторыка Алега Трусава.

Трусаў меў свой прыватны бізнэс: займаўся падробкай і перапродажам на Захад доказаў злачынстваў савецкіх уладаў. Гэтак аднойчы ён выгадна падсунуў эмісару эміgranцкага ўраду Рэчы Паспалітай Польскай у Лёндане нібыта зуб расстралянага польскага афіцэра, які, па словах Трусава, той знайшоў пад вёскай Катынь. Апусьцім падрабязнасьці пра тое, што гэта быў малочны зуб самога Алега Антонавіча. Якраз тут у галаве махляра і нарадзілася конгеніяльная ідэя падрабіць мапу аб разьмежаваньні Эўропы, быццам зацьверджаным Молатавым і Рыбэнтропам. Стырыўшы з запасьнікаў вышэй згаданую контурную мапу, ён уласнаручна правёў па ней лінію разьдзелу Польшчы, падрабіў подпісы Молатава і Рыбэнтропа і ўцюхаў яе за трояк першаму літоўскаму турысту. Гешэфт на мапах быў такі прыбытковы, што Трусаў за 2 гады прадаў заежджым лабусам каля 20-ці мапаў разьделу Эўропы, прычым на кожнай лінія Молотава-Рыбэнтропа праходзіла па-рознаму.

Пазьней фарцоўшчык ад гісторыі перайшоў на продаж глёбусаў з вынікамі Ялцінскай і Тэгеранскай канфэрэнцыяў, але гэта іншая гісторыя.

Для нас галоўнае тое, што адна з такіх мапаў трапіла на Захад і сёньня стала сьвятой каровай антыкамуністычных цемрашалаў. Ніякім сур'ёзным аргумэнтам у спрэчцы аб пакце Молатава-Рыбэнтропа яна зьяўляцца ня можа

**Генадзь Сагановіч**

## ФотадакумЭнт

*Заходнія беларусы. 16 верасьня 1939*



*Заходнія беларусы. 18 верасьня 1939*



**Прадзелкі бравага супраціўніка НКВД Янкі Філістовіча ў панскай Польшчы**



# ПРА БЕЛАРУСЬ



На здымках:
1. Чырвонаармейцы раздаюць ровары жыхарам Гародні
2. Савецкія салдаты зьнішчаюць ненавісныя народу кантрольна-прапускныя «адстойнікі» на мяжы з колішняй Польшчай

***«Ці праўда, што Савецкі Саюз прыяднаў Заходнюю Беларусь з карысных імпэрыялістычных інтарэсаў?»***
***Шымонас Шарэцкас, пэнсіянэр і прэзыдэнт***

## Мэмуары Рыбэнтропа

Натуральна, не, дарагі чытач. Каб давесьці гэтую альфабэтную ісьціну, спашлемся на фрагмэнт мэмуараў міністра 3-га Рэйху фон Рыбэнтропа аб дэталях падпісаньня 23 жніўня ў Маскве славутай дамовы з СССР аб ненападзе.

«...**Ф**юрэр адклаў у бок зборнік дзіцячых апавяданьняў Талстога і, змахнуўшы сьлязу, падняўся мне насустрач. Ягоныя вочы выпрамянялі цеплыню і чульлівасьць.
«Глядзі, Бэня, да бальшавікоў едзеш. Будзь сьціплым. Многа ня пі. І памятай: Рэйху як ніколі патрэбны мір з Саветамі. Можаш аддаць ім назад Варшаву, хрэн яе бяры, але дамову аб ненападзе падпішы»...
У Шарамецьева мяне сустрэў утробны астматычны голас інфарматара: «Міністар Замежных Справаў Фашыстоўскай Нямеччыны фон Рыбэнтроп, што прыбыў на перамовы, прайдзіце, калі ласка, у буфэт. Паўтараю...» Я закінуў за сьпіну заплечнік і прайшоў у бар, дзе ў кутку пад засохшым фікусам за адным са столікаў сумаваў зь сябрамі Молатаў. Ягоныя вочы адразу зайскрыліся: «Нарэшце, фашыст пракляты. А ну, хлопцы, штрафную яму». На прыпынку ля аэрадрому ўзялі таксі. «У Крэмль, два счётчика. Толькі, шэф, зрабі прыпынак ля начніка на Плошчы Кагановіча».
Нарэшце, машына заехала ў Крэмль – рэзыдэнцыю бальшавіцкіх сатрапаў. Па доўгіх крывых калідорах, спатыкаючыся на кожным кроку з-за адсутнасьці электрычнасьці, прайшлі ў кабінэт Вярхоўнага. Сталін падняўся з канапы і кінуўся мне насустрач. «Вай-вай, батоно, гэнацвале, кома джоба, шашлык, лаваш і кінгзмараулі!». Маскоўскі дыктатар не разумеў па-расейску ні слова. Перакладаў нам асабіста Берыя – апрычнік і пэрсанальны талмач Кобы.
– Іосіф Вісарыёнавіч кажа, што для падпісаньня дамовы аб ненападзе ўсё гатова.
– Гут! – я дастаў паперы. Разам з Молатавым схіліліся і паставілі пад дамовай подпісы. Рукі ў Молатава дрыжэлі.
– Гешэфт, – кажу я, прыдаючы словам сьвяточную інтанацыю. – З гэтага часу нашыя краіны будуць жыць у міры й добрасуседзтве.
Сталін працягнуў мне трубку.
– Махарадзэ Котэ, да-а?!
– Трубка міра, – пераклаў Берыя.
«Д'ябал пабяры рытуалы гэтых славянаў-недачалавекаў» – падумаў я і зацягнуўся. У галаву мне шыбанула знакамітая са школьнай лавы высокаякасная чуйская шмаль. «Гэта ж 146-ы артыкул УК!» – на ізьмене дапёр я.
– «Трэба завязваць і рваць кіпцюры адсюль. Абяцаў жа фюрэру».
– Не магу больш затрымліваць, Іосіф Вісарыёнавіч, – я папяціўся да дзьвярэй. – У мяне самалёт праз гадзіну, а мне яшчэ трэба гасьцінцаў фюрэру набыць.
– Лаваш, – дабрадушна махнуў Коба.
Я выскачыў з бункеру на сьвежае паветра і скіраваўся быў да Спаскай брамы. Раптам ззаду пачуліся стрэлы.
– Стаяць, сука, – грамілы ў камуфляжы НКВД заламалі мне рукі і пацягнулі назад у андэграўнд. Сталін нэрвова хадзіў па кабінэце.
– Казьбек, суліко, сакля, Кікабідзэ, кунак, мііно!!! – прасьвятліў сытуацыю Генэралісімус.
– Адбылася памылка! – пачаў ліхаманкава перакладаць Берыя. – Раптам высьветлілася, што паміж нашымі краінамі няма агульнай мяжы, таму любая форма ўзаемнай агрэсіі, як і добрасуседзтва, немагчымая. У такім разе дамова пра ненапад а-прыёры ня мае ніякага сэнсу.
Я коса паглядзеў на мапу. Сапраўды, СССР і Нямеччына разьдзеленыя Польшчай. Недавучка Адольф са сваёю вышэйшай яфрэйтарскай адукацыяй відавочна прапускае ў геаграфіі. «Мірнае супрацоўніцтва нашых краінаў у небясьпецы», – падумаў я.
– Да-а, пытаньне, – працягнуў Молатаў, чухаючы патыліцу, і раптам зрабіў катэгарычную выснову. – Без паўлітры тут не абысьціся.
Заклалі за каўнер, але ў галаву палезьлі толькі бабы і Ліга чэмпіёнаў. Аніякіх палітычных прапазыцыяў. Заклалі яшчэ.
– Ды што тут гадаць! – грукнуў кулаком па сталу Лаўрэнці. – На хрэн тую Польшчу – вось табе і агульная мяжа.
Берыя правёў далоньню па мапе:
– Гэта вам, а гэта нам.
– Няма базару, – кажу. – Ну, за мір!
Але тут на кушэтцы ачуняў Сталін, куды яго адцягнулі пасьля трэцяга карабля «Герцагавіны-Флор».
– Гамсахурдзія баржомі?! – Сталін глядзеў на мапу вялікімі чырвонымі вачыма і раптам, верагодна зь перадозу, загаварыў па-расейску:
– Што за херня, панімаеш! Вы мяне што, за апошняга лоха трымаеце? Дык вы мне Заходнюю Беларусь вырашылі ўцюхаць?! Засуньце гэты адсталы Паўночна-Заходні край сабе ў жопу! Гэта несур'ёзна! Мы вас ня ведаем, вы нас ня ведаеце. Я на сваім гулагу больш зараблю!
Я пажаваў сківіцамі. Мне прыходзілася прымаць складанае палітычнае рашэньне, якое вызначыць лёс арыйскай нацыі. «Хер зь імі, з арыйцамі! Падпішу дамову і нажруся нахаляву, як сьвіньня», – раскінуў я і рубануў:
– Значыцца так. Бярыце Заходнюю Беларусь плюс зьверху Прыбалтыку, Бэсарабію і... – на хвіліну мне стала шкада фінаў, – і скрыню Хольстэну. Гут?
– Скрыню кожнаму! – падаў голас сквалыга Молатаў.
– Згода! – адказаў я.
– Валеры Міладзэ і Нані Брэгвадзэ! – ад радасьці, што правярнуў добры бізнэс, Сталін зноў вярнуўся да роднай мовы.
– О'кей! – пераклаў Берыя, дастаючы пяцілітровы штоф старадароскага первачу...
...Зь першымі промнямі сонца ўся тусоўка адкінулася, а мы з Молатавым выйшлі на паветра папаліць ды абмеркаваць канкрэтныя аспэкты будучага міру...»

Нюрнбэрг, 1945

***Яшчэ ў дзяцінстве я чуў ад бабулі, што быў нейкі пратакол, які кідаў карычневы цень на памяць майго дзядулі. Ці існуюць увогуле «сакрэтныя пратаколы» да дамовы Молатава-Рыбэнтропа?***
***Вольфганг фон Рыбэнтроп, яфрэйтар альтэрнатыўнай службы***

## Праўда аб «сакрэтных пратаколах»

Так, але гэта зусім ня тыя падробкі, якімі круцяць на Захадзе. Сёньня мы публікуем сапраўдны пратакол Молатава-Рыбэнтропа, дзе няма ні слова пра разьдзелы Эўропы.

«**П**ратакол аб затрыманьні гр-на СССР Молатава і гр-на Гітлераўскай Нямеччыны Рыбэнтропа.
Гр-не Молатаў і Рыбэнтроп былі заўважаныя а 7 гадзіне раніцы 24 жніўня 1939г. ў нецьвярозым стане на будаўнічай пляцоўцы Палацу Саветаў (**прым рэд.**: былы храм Хрыста Збавіцеля), дзе ўжывалі алькагольныя напоі (на месцы была знойдзеная недапітая бутэлька гарэлкі «Выборавай» белапольскай вытворчасьці), брудна лаяліся з выкарыстаньнем нецэнзурных выражэньняў, размахвалі рукамі, прыставалі да мінакоў і г.д. На заўвагі супрацоўнікаў праваахоўных органаў не рэагавалі, прама зьневажаючы савецкую ўладу пошлымі анекдотамі пра Леніна і Крупскую і выразамі кшталту: «Сталінскія інквізытары! Палачы! Сатрапы! Салжаніцына на вас няма!». Гр-н Рыбэнтроп круціў дулі і казаў пра нейкую дыпляматычную недатыкальнасьць. Пры затрыманьні абодва аказалі супраціў супрацоўнікам міліцыі.
У тлумачэньнях, дадзеных парушальнікамі ў 35-ым пастарунку НКВД па вул. Молатава, заявілі, што на будаўнічай пляцоўцы дзялілі Эўропу, прызналі сябе вінаватымі і паабяцалі больш Эўропы не дзяліць.
Склад правапарушэньня, прадугледжаны артыкулам 13 АК РСФСР «Аб расьпіцьці алькагольных напояў у грамадзкім месцы».
Справа гр-наў Молатава і Рыбэнтропа перададзеная ў вытворчасьць суда Савецкага раёну г. Масквы.
Подпіс: сяржант Натан Шаранскі».
(На блянку клякса ў форме герба «Пагоня» і паўразмыты штамп: «Прынята да вытворчасьці Сав. судом г. Масквы»)●

Цэнтральны Архіў ФСБ РФ

# Новы часопіс ціпа «па металу»

**Круты мэталюга з д'ябальскімі татухамі ператвараецца на старонках *Музыкальнага журнала* ў прылізанага выканаўцу госпэлсаў**

Апёкшыся на малацэ, дзьмуць на ваду. Якую яшчэ выснову можна зрабіць пасьля азнаямленьня зь першым нумарам *Музыкального Журнала*, які ўзяў на сябе цяжар пераемнасьці ад вядомага мэталічнага часопісу *LEGION magazine*. Што за штучка быў *LEGION*, ня мне вам казаць.

Што ні старонка, то голая дзіваха ў мэталічным прыкідзе, што ні артыкул, то сатанюгі зь перавернутымі крыжамі, што ні фотка, то нейкая потнавalасатая сволач у зьвярыным аскале. Проста жах, а не часопіс.

Зразумела, доўга такое выданьне ў нашай сьвецкай дзяржаве існаваць не магло. Хутка на старонках цэнтральнай і нават лібэральнай прэсы пачалася кампанія супраць валасацікаў-экстрэмалаў, і ад граху па далей вырашылі гэтую лавачку ціха прыкрылі.

Але мэталюгаў так проста ня возьмеш. Неўзабаве зьявіўся новы мэтал-зін пад інтрыговай назвай *эМЖо* (*Мужчынскі і Жаночы*). Сотні малалетніх беларускіх аматараў экстрэмальшчыны, якія не на жарт былі спужаліся за лёс любімай чытанкі, пачуўшы пра *МЖ* павольна ўздыхнулі. Ага, скумекалі фаны мэталічнай бесаўшчыны, відавочна бацькі *LEGION* зьвярнуліся да старых бальшавіцкіх прыёмаў канспірацыі. Памятаеце, калі жандармы на пачатку стагодзьдзя забаранялі *Праўду*, хітравумныя ленінцы спакойненька засноўвалі новую газэту, напрыклад *Рабочая Праўда* або *Піянэрская Праўда*.





Аднак наіўным валасатым гномам прыйшлося жорстка абламацца. Былы флагман беларускай ды і ўсе-СНДэшнай цяжка-мэталічнай прэсы са скандальнага андэграўнднага пэрыёдыка ўвадначасьсе ператварыўся ў *Весьнік Беларускага Экзархату*. Аўтар гэтай зацемкі днямі стаў сьведкам наступнай сцэнкі. Каля вядомага музычнага камка Corona нейкі разьюшаны інфантыльнага выгляду валасацік горача расьпінаўся: «Дзе голыя бабы, дзе true and evil хмыры з Нарвэгіі ды крутыя наезды на папоў?!» Ягоны хударлявы хайрасты папутчык у байцы Burzum паддакваў: «Калі я раней прывозіў у вёску *LEGION*, дык я быў самым крутым мэталюгам на Століншчыне, ня сорам на дыскач схадзіць. А цяпер, куды гэтыя сэпультуры з манаварамі каму патрэбныя! Яны б яшчэ пра Элтана Джона ці пра Сафію Ратару напісалі! Ды што тут казаць, прадаліся чыстагану», – са скрухаю скончыў свой спіч хлопец. – «Эх, колькі ў вас нумароў, давайце ўсе».

Дадаць тут няма чаго ●

**Ка Валера**

## Форум-гАма

### Меншасьці падымаюць галаву

Не пасьпела пераважная сэксуальная большасьць ачухацца пасьля іскрамётнага прарыву гомікаў у грамадзка-палітычнае жыцьцё краіны, як на табе – новае патрасеньне. На гэты раз удар быў ня ў сьпіну.

Як стала вядома з распаўсюджанага днямі прэс-рэлізу, у Менску прайшоў устаноўчы зьезд Асацыяцыі Ананімных Ананістаў (ААА), якая ставіць сваёй галоўнай мэтай абарону правоў аматараў індывідуальнага аўтаномнага сэксу.

Цікава, што арганізатары ААА не прылічаюць сябе да сэксуальных меншасьцяў. «Ананізм – гэта найбольш распаўсюджаная форма сэксу ў любым здаровым і дэмакратычна разьвітым грамадзтве, прычым не залежна ад полавай арыентацыі чалавека,» – гаворыцца ў прэс-рэлізе. – «Легалізацыя ананімных дачыненьняў кожнага індывіда – зарука вызваленьня асобы ад гнёту калектыўнага фактару».

Зараз актывісты ААА, акрыленыя першымі посьпехамі, рыхтуюць да выданьня свой друкаваны орган *Ананімны кулак*, які будзе асьвятляць дзейнасьць Асацыяцыі, а таксама прапагандаваць найбольш бясьпечную форму перасьцярогі ад СНІДу, бо вядома ж пры такім сэксе выпадковыя полавыя сувязі – проста нонсэнс.

# ПАЗНАЙ СЯБЕ Ў МУЛЬЦЯШКАХ

***Як нядаўна высьветлілі сьветлыя галовы ў ФБР-ЦРУ, пэрсанажы мульцяшак – гэта вам далёка ня проста хухры-мухры, хіханькі ды хаханькі. На самой справе гэта ўсё архетыпы соцыюму. Прыхільнасьць і антыпатыя да таго ці іншага героя катунаў вызначае нашае месца у грамадзкім спэктары. Напрыклад, вы загіпнатызаваны меланхалічнымі ломкамі осліка іа. Усё з вамі зразумела – вы разьведзены інтэлігент, пабіты эканамічнымі турбуляцыямі. Калісьці вы касілі ад войска па дурцы, а зараз кропаеце пад бутэльку патрыятычныя вершы ў** Нашу Ніву **і г.д. Такім чынам, спытайце суседа, якія мульцяшкі яму ў кайф, і вы адразу загляніце ў ягонае палітычнае нутро.***



## Чорны плашч

Лічыць Мірона сьлюньцяем і апартуністам – трэба не сьцягі вешаць, а бомбы ўзрываць. Зьвязаны з пасьляваеннай антыбальшавіцкая партызанкай, якая мужна трывае ў глыбокіх лясах Гарадзеншчыны аж да сёньня. Вельмі карысны селезень для грамадзтва – забясьпечвае працу не менш як тром галінам дзяржаўных структураў: стукачам, Зімоўскаму і працаўніку ЖЭКу, які рэгулярна сьцірае са сьценаў ягонае паскуднае графіці «Лука, подлы трус, выходзь. Мы ўжо ідзем». Абсалютна правы. Правее толькі сьценкі.



## Тымон і Пумба

Цынічныя вясёлыя дыбілы з аазіса на Цэнтральным. Упарта такунаматацяцца ў чаканьні чарговай халявы. Звычайна позна ці рана на даляглядзе ўзьнікае нейкі буржуй Мікі Маўс (гл.ніжэй), кандыдат-самазванец на караля Льва, і прастаўляе разыгільдзяям жменю смачных жучкоў (бутэльку «Бровара»). «Хлопцы, паўдзельнічайце ў чарговым апазыцыйным сабантую. Вы ж за незалежнасьць?» ці «Так, так. Лука – адстой. Дэмакратыя – гэта крута! Крута!» – хіхікаюць Тымон і Пумба. Яны ахвотна падтрымліваюць усе спробы дзяржаўных пераваротаў, але давераць вырадкам ня трэба. Калі будзе поўны галяк, прададуць дэмакратычныя пераканаьні за тую ж бутэльку піва. Але ж Прэзыдэнта заложаць яшчэ за меншае – за тое, каб пакінулі дапаліць.



## Аладзін

Прадстаўнік рабоча-сялянскіх мас, які робіць супэркар'еру чыноўніка ў прэзыдэнцкай вертыкалі. Адзін зь лідэраў Султанскай Патрыятычнай Моладзі Аграбы. Нячысты на руку, мае за сьпінай кантакты з прадстаўнікамі крымінальнага сьвету – шчыпачом Абу і злосным расхіціцелем дзяржаўнай маёмасьці - папугаем Яга. Галоўная зброя па прасоўваньню па службовай лесьвіцы – валасатая лапа родзіча Абу і наіўная прынцэса, якой ён задурыў мазгі вялікім і сьветлым каханьнем. Падсіджвае канкурэнта, прэм'ер-візіра і марыць прымерыць султанскую чалму і перасесьці ў дзядзькавы 600-ты дыван-самалёт.



## Фрэд Стоўн

Жалезабетонны прыхільнік Пазьняка. Жыве анахарэтам у нейкай субкультурнай пячоры, куды не даходзіць вонкавая інфармацыя. У прагрэс ня верыць. З дасягненьняў НТР прыймае толькі факсавы апарат, каб рэгулярна ўваходзіць у трансцэндэнтальны кантакт з духамі. Верыць ў архаічныя формы барацьбы з дыктатурай: пры дапамозе каменных рубілаў, рагатак і дроцікаў загнаць «Луку», як маманта, у прорву, крыважадна забіць, садраць зь яго скуру і зьесьці. Увага – есьці бацьку прыйдзецца бяз солі і сырым, бо Фрэд Стоўн упарта лічыць агонь правакацыяй маскоўскай разьведкі, выдуманай дзеля таго, каб раскалоць Фронт.



## Дональд Дак

Чокнуты інтэлектуал. Паводле паходжаньня лічыць сябе засьценкавым шляхцічам. Зашмат паранаідальны шыз, каб быць прынятым ў сябры нейкай арганізацыі. Горача верыць ў тэорыю змовы масонаў, ілюмінатаў, жыдоў, маскалёў, NATO, Міжнароднага Валютнага Фонду: Нажаль, з-за ягонага херовага вымаўленьня і адстутнасьці логікі ніхто ня можа дакладна зразумець, што ён хоча.



## Мікі Маўс

Адэпт алігархічнага фондавага капіталу, e-mail friend Copaca і Эбэрта. Малады лібэральны грызун, жыве ў наёмных норах, якія выдае за офіс або нават рэсурсны цэнтар. Грызунакіроўца па Менску - Нямецкі Цэнтар ііВ, офіс United Way, фонд імя Льва Сапегі і начнік Семела каля Дарашэвіча, 4. Рэалізаваны беларускі варыянт амэрыканская мары - свой фонд, свой пэйджэр, свой куратар у КДБ. Харчуецца грантамі. Высочвае іх, асьцярожна набліжаецца з галівудзкай усьмешкай, гіпнатызуе і ахмурае грандадаўца. Потым хапае здабычу і цягне да сябе ў нару. Выдзяляе справаздачы. Да канкурэнтаў ставіцца бязьлітасна, зьнішчаючы іх усімі сродкамі. Змагацца зь імі традыцыйнымі мэтадамі бэссэнсоўна. Нават насупраць будынку КДБ яны зьвілі сябе логава (офіс IREX) Самы просты спосаб пакончыць з грызунамі ў краіне - увесьці сухі закон.



## Гуфі

Поўны пэдальны лох. Галасуе так, як скажа яму Мікі Маўс. Даверлівы сабака дэмакратычных пераўтварэньняў. Вельмі адказная асоба, якая не прапускае ніводнай мульцяшнай тусоўкі. Таму на яго вешаюць тэхнічную частку – нашэньне транспарантаў, збор подпісаў удзел у пікетах за Кальцавой. Падпісчык *Народнай Волі* і *Беларускай Маладзёжнай*. Газэтаў не чытае.

## Новыя прыгоды Супэра ў Маладэчне

# Зноў падставілі

«У-у-у! Гады! Зажымацелі андэграўнду!» – падвывалі многія аматары рок-н-ролу, наліваючы «па другой». Першага верасьня не адна шклянка гарэлкі была паднятая ў памяць вядомага рок-фэсту «Рок па вакацыях». Які дзень пыліцца бяз справы гітара Піта Паўлава, сумуе ўлюблёная піўнуха бяз Касі Камоцкай... Увесь цьвет нацыянальнага андэграўнду ў адзін злашчасны момант самым натуральным чынам проста зьнік, выпарыўся ў невядомым накірунку. Некалькі дзён ніхто ня мог даць рады, куды ж усе падзеліся.

Калі напрыканцы жніўня рокеры не вярнуліся з чарговага турнэ, ніхто ў Менску й ня рыпнуўся. «Звыклая справа, забухалі ў Маладэчне», – спакойна думалі ў Менску сваякі. Праз тры дні аб'явіўся вядомы айчынны прад'юсэр, прайдзісьвет і авантурыст Супрановіч, які й вазіў музыкаў на апошні канцэрт. Аб'явіўся ён адзін... І адразу паставіў усіх на вушы.

«Карацей, канцэрт, таго, сарвалі... Эта... Бачу, НРМ зь мянтамі разьбіраецца... тут... я, эта... аднаго – бах, другога... Мяне ў варанок... Больш нічога ня бачыў, ня чуў, ня ведаю!» – заявіў ён на прэс-канфэрэнцыі. Карацей, як той казаў, «справа ясная, што справа цёмная».

Разабрацца, што ж сталася з музыкамі, аказалася ня так лёгка, як здаецца з 12-га паверху сталічнага офісу. Карэспандэнт *Навінак* быў накіраваны ў Маладэчна. Сьвятло на ўсю гісторыю праліла размова з самімі музыкамі, якія аб'явіліся на месцы здарэньня гэтак жа раптоўна, як і зьніклі. Непаголеныя, раззлаваныя працяглай адсідкай у мясцовым выцьвярэзьніку, музыкі наперабой мацюгаліся, узгадваючы падзеі злашчаснага сэйшну. Паступова высьветліліся падрабязнасьці. Як заўсёды, у арганізатараў былі праблемы з грашыма. Апошні праект – CD «Вольныя Танцы» – праляцеў, як фанэра над Парыжам, займаючы з усімі нацяжкамі толькі апошнюю пазыцыю ў хіт-парадзе Сахар-Топ-10. Для раскруткі дохлага сідзішніка сквапны Супэр ужо паўгады ганяў няшчасных рокераў па гарадах і вёсках Беларусі. Пакуль яны лабалі на сцэне, мафіёзі сядзеў, падлічваючы рахункі й сачыняючы новыя хіт-парады, першыя радкі якіх на год наперад выкупіла НРМ. На сэйшне ў Маладэчне Супрановіч спадзяваўся падняць гару бабак, але... Канцэрт ад пачатку быў абсалютна нулёвым. Перад сцэнай вяла тусаваўся дзясятак мясцовых гопнікаў. Музыканты й не зважалі на такую дробязь, спакойна даганяючыся на сцэне падчас выкананьня кампазыцыяў. Супрановіч нэрвова мармытаў, седзячы за сцэнай: «Трэба разагрэў, трэба які скандал...» Яму было дрэнна, бо на грошы ён ўжо патрапіў, дый рэклямы не атрымалася ніякай. Неўзабаве небарака-арганізатар зьнік, на што ў той момант ніхто не зьвярнуў увагі.

Празь дзесяць хвілінаў сэйшн набыў нечаканы працяг. Да сцэны прарывалася кодла амонаўцаў у поўным узбраеньні. «На пол, уроды!» – раздалася каманда старшыні. Піт Паўлаў радасна зароў і выцяў гітарай па бліжэйшай лысай галаве. Распачаўся сапраўдны рок-н-рол... Як высьветлілася, нейкі ананім (зь менскім акцэнтам і прэтэнзіяй на заіканьне) патэлефанаваў у бліжэйшы міліцэйскі пастарунак ды паведаміў, што на месцы правядзеньня канцэрту ўжываюцца алькагольныя напоі й парушаецца грамадзкі парадак. Міліцыя, вядома, прыняла меры.

І вось тут узьнікае цікавы аспэкт... Музыкі ўзвылі, даведаўшыся, што падчас іхнае адсідкі Супэр, які аддзелаўся лёгкім спалохам, тыдзень даваў прэс-канфэрэнцыі і прыцягваў увагу да сваёй непаўторнай асобы. За якія гэта паслугі яго так рана выпусьцілі? І каму ўвогуле было выгадна выклікаць міліцыю і рабіць скандал на пустым месцы?

Фанатам НРМ, якія яшчэ зьбіраюцца пайсьці на абвешчаны Супэрам 8 верасьня новы сэйшн, варта моцна задумацца, ці ня стануцца яны чарговымі закладнікамі хцівага махляра ●

**Сяржук Сахараў,**
Маладэчна




*Такую вось нізкаякасную прадукцыю намагаюцца ўцюхаць даверліваму пакупніку махлярскі трэст «Супэр, Сахар & сатана» (па-просту «БМА-group)*

## ПадрабЯзнасьці

### Элвіс Прэслі забіў прэзыдэнта Кенэдзі

Сэнсацыйную інфармацыю ня так даўно павесілі на сайце ЦРУ ў інтэрнэце. Старонка прапануе новую вэрсію трагічных падзеяў 1964 году ў Даласе, дзе Лі Харві Освальд нібыта падстрэліў прэзыдэнта Джона Кенэдзі. Дык вось, гэты самы Освальд, між іншым, тырчэў ад Элвіса і ўзначальваў ягоны фан-клюб у Даласе. Увосень 1963 Прэслі прывёў у клюб двух незнаёмцаў. Тады Освальд яшчэ ня ведаў, што гэта былі кангрэсмэн Ніксан і дырэктар ФБР Гувэр. Салодкую парачку аб'ядноўвала адно: абодва мэны жарсна жадалі пабачыць Кенэдзі ў белых тапках. Першага Кенэдзі апусьціў на выбарах у 1958г. У другога была яшчэ большая падстава мецъ зуб на прэзыдэнта. У яго смазьлівы Джоні адбіў бабу, прычым якую! Саму Мэрлін Манро.



Гэты апошні хмыр Гувэр меў калясальны ўплыў на Элвіса і пасьвяціў сьпевака ў пляны забойства. Кароль рок-н-ролу адразу ўзгадаў пра свайго фанатычнага прыхільніка ў Даласе і прапанаваў выкарыстаць яго ў ролі кілера. Падштурхнуць Освальда да забойства Кенэдзі было раз плюнуць. Як і ўсе фаны, ён мог бы за куміра разрэзаць на лесапілке айца з маці. Адзінае, што ён папрасіў, ідучы на верную сьмерць, аўтограф Караля. На ўнікальным здымку вы бачыце Освальда з партрэтам Прэслі і дубальтоўкай, стрэлы зь якой праз пару гадзінаў абарвуць жыцьцё прэзыдэнту ЗША. Што было далей, мы ведаем: Ніксан стаў прэзыдэнтам, Гувэр знайшоў новую млядзь Барбару Стрэйзанд, і толькі Элвіса цярзалі прыступы пакутаў сумленьня за лёс прыдурка Освальда. Неўзабаве Прэслі перажэрся транікамі і пайшоў з жыцьця ў самым росквіце творчых сілаў...

## Яны завуць сябе

# «новай хваляй»

Надыход восені прынес сур'ёзныя траблы беларускай палітычнай апазыцыі. Старое пакаленьне барацьбітоў-дэмакратаў апасьліва пазірае на новых людзей, што рвуцца да кіраваньня дэмакратычнымі сіламі. Вячорка, Бандарэнка, Ганчар... Усіх «стремают» гэтыя малойчыкі, якія клянуцца, што ўвосень на вуліцы Менску выйдзе куча народу, і Луку хутка будуць кранты. Яны абвяшчаюць прыход у беларускую палітыку «новай хвалі».

Адкуль узялася гэтая «новая хваля», доўга думаць не прыходзіцца. «Скажы мне, што ты слухаеш, і я скажу табе, хто ты». І сапраўды, варта зьвярнуць троху больш увагі на музычныя густы беларускіх палітыкаў.

Напачатку 90-х у беларускай палітыцы ўсім запраўлялі звычайныя старпёры, музычныя прыхільнасьці якіх не выходзілі далей за танных клясыкаў зь ВІА «Песьняры». І гэта зразумела: узрост, нічога не папішаш. Пазьняк, які тырчэў ад Мусьліма Магамаева, лічыўся за жудаснага радыкала.

Зразумела, што доўга такія кадры кіраваць дзяржавай не маглі. Ашаламляльная перамога саракагадовага Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах паклала пачатак новай эры беларускай гісторыі. І немалаважна, што першы сапраўды народны прэзыдэнт вырас і загартаваўся ў той час, калі ў нашых вёсках ужо стала слухалі Kiss, Accept, AC/DC, а трохі пазьней – Metallica. Будучыя трактарысты, абвешаныя ланцугамі й каленваламі ад камбайна «Ніва», расьпісвалі бліжэйшыя сараі назвамі любімых гуртоў і радасна мясілі маменькіных сынкоў, што прыяжджалі з гораду на вакацыі. Простыя хлопцы з фарбаванымі хной чубамі не валодалі ангельскай мовай, але чуючы зь любімых песень ключавыя словы fuck, shit, ass, stupid, яны добра ведалі, што жыцьцё за бугром – ня цукар. Пад грукат мэталічных рыфаў над роднымі палямі сярод людзей працы набіраўся досьведу будучы кіраўнік дзяржавы... Менавіта гэта й гарантавала агульнанародную папулярнасьць і трывалыя посьпехі новай улады.

Прайшоў пяток гадоў, і падрасло новае пакаленьне палітыкаў. Іхнае полавае высьпяваньне прыйшлося ўжо на васьмідзясятыя – на час усеагульнага панаваньня іншых «музыкаў» – Modern Talking, C.C.Catch, Sandra... Тады аматары гэтак званай «новай хвалі» (а ў прастанародзьдзі «валністы») акупавалі дыскатэкі й нацыяналістычныя тусоўкі (яскравы прыклад – «Талака», якая фактычна была фан-клюбам Joy).

Замест зразумелага кожнаму ёлупню бульдозэрнага скрыгату, яны слухалі салодзенькую музыку гнілой заходняй мас-культуры. Начапляючы на сябе модныя імпартовыя шмоткі, прылізаныя хлопчыкі-мажоры ідэалізавалі заходнюю мадэль разьвіцьця і агрэсіўны блёк NATO, уяўлялі сабой сьляпых праваднікоў чужога ладу жыцьця. Сёньня гэтыя людзі нахрапіста лезуць у вялікую палітыку, не пакідаючы шанцаў адэптам «цяжкога року». Прынамсі, так яны думаюць.

Вядома ж «старыя зубры», кшталту Шарэцкага ці Пазьняка, ужо адыгралі сваё. Пройдзе час, і пра іх успомняць хіба толькі на штогадовых сходках вэтэранаў фан-клюбу «Самоцветов». Але ня ўсе яшчэ згодныя так проста пачаць плясаць пад музыку эстрадных мазэфакераў. Сёньня перад намі – глябальнае сутыкненьне двух пакаленьняў, дзьвюх культур, двух сьветапоглядаў.

На 17 кастрычніка фанаты «Мадэрну» гразяцца выцягнуць некалькі тысячаў «валністаў», каб шчыміць па вуглах адэптаў хэві-мэталу. Ад таго, хто пераможа, у многім залежыць будучыня Беларусі. Сапраўды народная ўлада, якая памятае Уда Дыкшнайдэра і Озі Озбарна, абвяшчае лёзунг: «Няхай загіне ў «цяжкім року» Ганчар, Лябедзька і Вячорка!». Прыйшоў час вырашыць канчаткова з кім ты: з «валной» ці з «мэталам»?

**Дытэр Болен**

# Бівіс і Бат-хэд едуць на бульбу











































